ЦАНА 50 К.



# НАВІНЫ

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

2 ЛІПЕНЯ, 5'1990

## АПОКРЫФ

1. Ад Максіма Кніжніка пачатак ....................................................................

2. Калі скончылася сем тысяч год ад стварэньня сьвету, Хрыстос зноў зышоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым казалі пракокі.

3. І хадзіў ён па ўсяму нашаму краю: і па Меншчыне, і па Віленшчыне, і па Магілёўшчыне, і па Задзьвінскай зямлі.

4. І разам зь ім былі сьвяты Пётра і сьвяты Юры. Але ніхто зь людзей не пазнаваў яго.

5. Бо ішлі яны босымі нагамі, зь непакрытымі галовамі, і былі адзеты ў белы кужаль. А не таго спадзяваліся людзі.

6. Таму ніхто не зьвярнуў увагі на іх, калі ў час жніва праходзілі яны між працуючых людзей.

7. Толькі музыка, катораму цяпер не было што рабіць, падышоў да іх і сказаў: сорамна мне, бо сяголньня дзень працы і ўсе клапоцяцца каля яе; адзін я нікчэмны чалавек.

8. І адказаў яму Ісус: не смуціся ў сэрцы сваім. Ці ж не твае песьні сьпяваюць яны цяпер у часе жніва? Таму не схіляй нізка галавы тваёй і не хавай твар свой ад вачэй людзкіх.

9. Бо няма праўды ў тым, каторы кажа, што ты — лішні на зямлі. Сапраўды кажу табе: вось надойдзе да яго гадзіна горычы — і чым ён разважыць смутак свой, апроч песьні тваёй? Таксама і ў дзень радасьці ён прызавець цябе.

10. І, паўчаючы яго, казаў: пад песьні кладуць чалавека ў калыску і са сьпевамі ж апускаюць у магілу яго.

11. Штодзённымі клопатамі поўна людзкое жыцьцё. Але калі зварухнецца душа чалавека, толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песьні свае.

12. Бо сьпяваюць нават жабы ў багне. А ці ж ня лепшымі будзеце вы ад іх?

13. Так вучыў Хрыстос. Але Пётра, пачуўшы яго словы, сказаў: Вучыцелю, у гэтай староньцы ёсьць людзі, каторым няма чаго есьці. Ці ж ня сьцісьнецца ад сораму сэрца гэтага чалавека, калі ён да іх, шукаючы скарынкі хлеба, прыйдзе зь песьняй сваёй?

14. І, адказваючы яму, сказаў Хрыстос: так, жыцьцё гэтых людзей цяжкое, беднае й прыгнечанае. Чаму ж ты хочаш яшчэ й красу адабраць у іх? Мала дадзена ім — няўжо ж трэба, каб было яшчэ менш?

15. І, зьвярнуўшыся да музыкі, спытаў яго: калі пяюць песьні ў вас?

16. Музыка ж адказаў: пяюць на Каляды, на Запусты, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўку, на зажынках і дажынках.

17. Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць, дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць, гуляючы; пяюць на ігрышчах і вечарынках, і на вясельлях, і на хаўтурах, і ў бяседзе, і ў працы, і ў маскалі йдучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць.

18. І прамовіў Хрыстос Пятру: ты, шкадуючы долі галодных людзей, асудзіў песьню, але галодныя людзі не асудзілі яе. Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым.

19. Тады ізноў сказаў Пётра: але няхай жа ў песьнях будуць думкі добрыя і паўчаючыя, каб, апроч красы, меўся ў іх і спажытак чалавеку.

20. І адказаў яму Хрыстос: няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы.

21. І, паўчаючы іх, прамовіў: агляніцеся навокал! Ці ж ня ніва калыхаецца каля нас?

22. Цяжка працаваў ля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзрасьлі васількі.

23. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы маглі бы ўзрасьці на месцы васількоў.

24. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы. Таму я ня вырву за каранём іх, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё.

25. Так казаў гаспадар у сэрцы сваім і думках сваіх. І не падняў ён рукі на васількі.

26. Я ж гавару вам: добра быць коласам; але шчасьліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?

27. І кажучы так, пачуў ён песьню жнеек і прамовіў: слухайце, што кажуць словы гэтай песьні. Яе складалі людзі, каторыя ведаюць, чаговарты хлеб.

28. Яны ж пачулі, што словы тэй песьні кажуць: няма лепш цьвяточка над васілёчка. І далей ужо моўчкі ішлі яны.

29. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пылу дарогі сляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх. Амінь.

Рукапіс гэты адшукаў Максім Багдановіч.

(Матэрыял пра Купальле чытайце на стар. 4–5)

## СЬВЯТА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДУХУ

# ПАРЛЯМАНЦКІЯ ГУЛЬНІ

***Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат і сябра Сойму БНФ – адзін з трох менскіх каардынатараў "Дэмакратычнага клюбу". Ён лічыць, што зараз тон у Вярхоўным Савеце задаюць дэмакраты. Магчыма. Ён лічыць таксама, што і ў цяперашнім складзе Вярхоўны Савет можа стаць нармальным пераходным парлямантам. Хацелася б спадзявацца. Гэтае інтэрвію зь ім – пра тонкасьці парляманцкай працы й тактыкі дэмакратаў.***



**"Навіны": Дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР часта заклікаюць адзін аднаго да кансалідацыі. І гэтыя заклікі, падобна, ня проста мода. Калі заклікаюць, значыць, ёсьць каго. Але ніводная фракцыя пакуль афіцыйна ня ўтвораная.**

**Алег Трусаў:** Фракцыя ў парляманце пакуль сапраўды толькі адна, і тое яна пра сябе яшчэ не заявіла і зьяўляецца пакуль плыньню. Гэта група дэпутатаў на плятформе БНФ, якая складаецца сёньня з 23 чалавек. Гэта ня толькі сябры Народнага Фронту, але й незалежныя дэпутаты, якія падпісалі нашую плятформу. Так што нават фракцыя БНФ неаднародная.

На аснове гэтай структуры ўтварылася больш шырокая група, якая завецца "Дэмакратычны дэпутацкі клюб". З кожным днём гэтая група набірае прыхільнікаў і налічвае сёньня каля сотні чалавек. Пачаткова клюб меў трох каардынатараў – Шушкевіча, Голубева, Трусава, цяпер да іх далучыліся яшчэ шэсьць каардынатараў ад абласьцей. Ад іншых дэпутацкіх групаў клюб адрозніваецца тым, што ў нас заўсёды адчынены ўваход. Кожны дэпутат можа браць удзел у яго працы. Галоўная задача клюбу – дапамагчы дэпутатам стаць палітыкамі, бо мы ўсе ня толькі ў палітычным сэнсе, але і ва ўсіх іншых сэнсах малапісьменныя людзі. Ніякіх таямніцаў у клюбу няма. Тактыка распрацоўваецца папярэдне, і сябра клюбу пад час паседжаньня сам думае, прытрымлівацца яе ці не. Часам эмоцыі пераважаюць, і тады ўвесь разьлік бурыцца. Але ў апошнія часы такіх зрываў ужо не было.

**"Навіны": Чым жа тады вытлумачыць, што толькі лічаныя месцы ў Прэзыдыюме дасталіся сябрам "Дэмакратычнага клюбу"?**

**А.Т.:** Існуе яшчэ некалькі выразных дэпутацкіх групаў. Напрыклад, група "Саюз". Яна аформілася цалкам, першая надрукавала ўсе свае паперы і вывесіла іх на інфармацыйным стэндзе. Гэтая група аб'ядноўвае пераважна вэтэранаў, прычым не звычайных вэтэранаў, як нашыя дзяды й бацькі, а ў асноўным вэтэранаў загадна-адміністрацыйнай сыстэмы: былых сакратароў абкамаў, адстаўных партпалітработнікаў і г.д. Іх там каля 25 чалавек. Прадстаўнікі гэтай групы выступаюць за старыя добрыя часы, за адзіны і недзялімы моцны саюз (адсюль назва), гатовыя і надалей ісьці да сьветлай будучыні сямімільнымі крокамі. Часам яны трошкі карыстаюцца перабудовачнай фразэялёгіяй.

Ёсьць яшчэ дзьве вельмі моцныя групы, якія ў залежнасьці ад сытуацыі могуць або аб'ядноўвацца, або выступаць паасобку. Гэта "партыя аграрыяў" (аграрнікаў), якая налічвае каля 75 чалавек і рэгулярна праводзіць свае паседжаньні, і прыблізна такой самай колькасьці "прамысловая партыя", у якую ўваходзяць кіраўнікі прадпрыемстваў. Гэтая другая група аформлена слабей ад першай, але ў патрэбны момант "прамысловікі" таксама разумеюць адзін аднаго з паўслова. Характэрнай чалавечай рысай дэпутатаў гэтых дзьвюх групаў зьяўляецца тое, што свайго становішча ў грамадзтве яны дасягнулі не пратэкцыямі й любасьцю да начальства, а толькі дзякуючы працы, мазалю. Усё ж адбор на гэтых выбарах адбыўся. Часам "аграрыі" і "прамысловікі" прытрымліваюцца вельмі кансэрватыўных поглядаў, але яны – незалежныя асобы. Яны ня любяць, калі цісьне Сакалоў, але ня любяць таксама, калі цісьне БНФ.

З прадстаўнікоў партапарату ўтварыліся дзьве групы. Першая – вышэйшы партапарат. Іх каля 30 чалавек. Другая – ніжэйшы. Гэта пераважна сакратары райкамаў, прытым часта новыя, што занялі пасты ў часы перабудовы. Гэтыя апошнія часам галасуюць разам з дэпутатамі БНФ і наогул выглядаюць на нашых верагодных саюзьнікаў. Пераважна гэта досыць маладыя людзі, з багатым вопытам кіраўнічай работы, якія выдатна разумеюць, што Народны Фронт сапраўды прапануе канструктыўны шлях выхаду са становішча.

**"Навіны": З асобамі якіх дэпутатаў можна было б асацыяваць дзейнасьць кожнай з гэтых групаў?**

**А.Т.:** Фракцыя БНФ – гэта Пазьняк, Голубеў, Садоўскі, Заблоцкі, той жа Трусаў. Дэмакратычны клюб – Ганчар і Кавалёнак. Вэтэраны партапарату – Жукоўскі й Мілаванаў. "Аграрыі" – Гаркун. "Прамысловікі" – І. Трусаў Сыракваш, Козік. Вышэйшы партапарат – Арцыменя, Камай, Кудлаш. Ніжэйшы партапарат – Радкевіч (ён ніколі не выступае, але карыстаецца вялікім аўтарытэтам), Краўчанка, Каратчэня.

**"Навіны": Як бы зараз Вы ацанілі становішча ў Вярхоўным Савеце Яфрэма Сакалова?**

**А.Т.:** Чыста па-чалавечы мне яго нават шкада. Аднойчы ён выйшаў зь нейкай прапановай, атрымаў 28 галасоў у падтрымку і сеў. Атрымаць так мала, калі камуністаў у парляманце 89% – гэта сьведчыць само пра сябе.

**"Навіны": Якая плынь зараз дамінуе ў Вярхоўным Савеце?**

**А.Т.:** Наперадзе "Дэмакратычны клюб". Варта прыгледзецца да хады сэсыі, як адразу стане ясна, што тон заўжды задаюць дэмакратычныя дэпутаты.

**"Навіны": А калі паглядзець на вынікі галасаваньня?**

**А.Т.:** Калі дэмакраты пераканаўча выступаюць супраць партапарату, дык на іхні бок становіцца частка "аграрыяў", "прамысловікоў", інвалідаў ды ніжэйшых партапаратчыкаў. Звычайна апаратнаму прэтэндэнту не хапае 3–4 галасы, каб прайсьці. Калі йдзе дэпутат ад клюбу, дык тут адваротная сытуацыя. "Цэнтар", асабліва калі ведае, што гэта дэпутат ад фракцыі БНФ, рэзка паварочвае ўбок і галасуе супраць. Тады вылучаецца прадстаўнік трэцяй сілы, які й праходзіць.

**"Навіны": Хто ўсё ж, на Вашую думку, перамог на гэтых выбарах?**

**А.Т.:** На гэтых выбарах перамагла загадна-адміністрацыйная сыстэма, якая на Беларусі мае больш трывалае становішча, чым у іншых рэспубліках. І яна прадэманстравала ўсю сваю ваяўнічую бескультурнасьць. Тое, зь якой актыўнасьцю многія дэпутаты выступаюць супраць беларускай мовы, супраць нейкіх чыста культурніцкіх прапановаў, сьведчыць, што грунт сыстэмы – гэта бескультур'е. Часам па тварах некаторых дэпутатаў я бачу, як яны ўстрымліваюцца, каб ня вылаяцца матам, як яны марудна падшукваюць словы, але ўсё адно гавораць нешта такое, за што трэба прасіць прабачэньня. Спачатку былі спробы нават затупаць, засьвістаць, запляскаць.

Але я быў бы несправядлівы, каб сказаў, што ў парляманце няма жаданьня слухаць апанэнта й вучыцца. Зараз ужо пачалі ўважліва слухаць цікавыя выступы, зь якога б боку яны ні гучалі. Гэтым наш Вярхоўны Савет адрозьніваецца ад рускага ды ўкраінскага. Наш парлямант, хаця і невысокай культуры, але ў першыя два дні зразумеў гэта, а, зразумеўшы, пачаў вучыцца. Ужо можна пачуць выступы г.зв. "маўчуноў". Яны так і гавораць, маўляў, я ўвесь час сядзеў і маўчаў, але цяпер скажу. Гэта добра, бо людзі вучацца. Нашмат горш, калі дэпутат увесь час маўчыць і толькі цісьне на кнопку, а часам яшчэ на суседаву...

**"Навіны": Дарэчы, беларускі Вярхоўны Савет, у адрозьненьне ад рускага ды ўкраінскага, дэманструе фантастычнае моўнае бескультур'е. Столькі моўных хібаў, колькі мы пачулі за гэтыя два месяцы, іншы чалавек не пачуе па радыё за ўсё жыцьцё. Можна ўявіць сабе становішча школьных настаўнікаў: двоечнікі цяпер могуць спасылацца на вышэйшы орган заканадаўчай улады.**

**А.Т.:** Гэта толькі ілюстрацыя культурнай катастрофы, у якой апынуўся наш народ. Страціўшы беларускую мову, мы не набылі ніякай. На сталічным праспэкце або ў вёсцы мы пачуем тое ж, што і ў парляманце. Пра многае сьведчыць і прапорцыя: 38 аграномаў і 3 пісьменьнікі. Падобнай прапорцыі няма ў ніводным парляманце сьвету.

**"Навіны": Праз два месяцы пачне дзейнічаць Закон аб мовах у БССР. Як на гэта зрэагуе Вярхоўны Савет у сувязі са сваім моўным бескультур'ем?**

**А.Т.:** Дзейнасьць дэпутатаў ад БНФ, ад Таварыства беларускай мовы выканала і выконвае сваю асьветніцкую ролю. Яны прадэманстравалі, што гэты закон ня будзе мёртвы. Таму, мяркую, яго адмены ня будзе. Папраўкі таксама ня будуць зробленыя. Але могуць адбыцца перавыбары Старшыні, і закон пачне дзейнічаць. Другі варыянт, што Старшыня пачне ўжываць больш беларускіх словаў у сваім, так бы мовіць, маналёгу. Трэці варыянт, што паседжаньні будзе весьці 1-ы намесьнік, а сам паважаны Старшыня будзе зачытваць толькі папярэдне падрыхтаваныя тэксты.

Што да астатніх дэпутатаў, дык многія зь іх ужо пачынаюць прамаўляць па-беларуску. Прычым першыя ў гэтай справе – сакратары райкамаў партыі. Дарэчы, невыпадкова, што праграма майго канкурэнта на пасаду старшыні камісіі па міжнацыянальных адносінах, сакратара Ваўкавыскага райкаму КПБ Жэбрака ў сэнсе моўнага адраджэньня была больш грунтоўная, чым доктара філязофіі зь Віцебску Сьлямнёва. Нават Жукоўскі з групы вэтэранаў дзеля прыліку на адно з пытаньняў спрабаваў адказаць на беларускай мове.

**"Навіны": Які можна было б зрабіць цьвярозы прагноз на ролю й месца гэтага Вярхоўнага Савету ў гісторыі Рэспублікі?**

**А.Т.:** Многіх сапраўды не задавальняюць тэмпы, якімі працуе наш парлямант. Але трэба разумець, што хутка ён можа працаваць толькі ў адзін бок – у кансэрватыўны.

Але шчыра кажучы, паступова я раблюся ўсё большым аптымістам. Спачатку здавалася, што дэпутаты БНФ будуць маленькай купкай, хлопчыкамі для біцьця. Зараз сытуацыя паварочваецца гэтак, што і ў цяперашнім складзе Вярхоўны Савет можа стаць нармальным пераходным парлямантам. Пры ўсёй сваёй разнастайнасьці цяперашні Вярхоўны Савет зможа да пэўнай ступені кансалідавацца. Пра гэта дазваляюць меркаваць кулуарныя кантакты паміж паасобнымі дэпутацкімі групамі. Напрыклад, на Пазьняка й Садоўскага перасталі ўжо глядзець як на д'яблаў з рагамі. І тое, пра што сёньня гавораць дэпутаты БНФ, заўтра паўтарае сам Старшыня. Мне здаецца, што да свайго роспуску гэты парлямант (а я сумняваюся, што ён пратрымаецца пяць гадоў) прыйдзе не праз палітычны крызіс, калі работа ў прынцыпе будзе паралізаваная, а шляхам агульнай згоды, праз абвяшчэньне датэрміновых выбараў.

**"Навіны": Скончылася фармаваньне сталых і часовых камісыяў. Цяпер Вярхоўны Савет павінен сфармаваць кабінэт міністраў. "Дэмакратычны клюб" ужо распрацаваў сваю тактыку для гэтага этапу парляманцкай дзейнасьці?**

**А.Т.:** Мне здаецца, што у часе пераходнага пэрыяду нам найперш патрэбна адсекчы шлях толькі тым міністрам і толькі тым намесьнікам старшыні Савету Міністраў, якія сябе канчаткова скампрамэтавалі і паказалі сваю поўную бездапаможнасьць. Але калі мы ўбачым, што прэтэндэнты нечага вартыя, на пераходны пэрыяд іх трэба падтрымаць, бо, па-першае, у нас мала людзей, а, па-другое, чалавеку з нармальным сьветапоглядам у гэтай сыстэме будзе вельмі цяжка працаваць.

Асноўная ж увага па-ранейшаму канцэнтруецца на камісыях. Найперш мы павінны максымальна ўзмацніць тыя камісіі, дзе старшынямі сталі дэпутаты з "Дэмакратычнага клюбу" або дэпутаты, якія ставяцца да нас прыхільна. У камісыях могуць вырашацца самыя розныя пытаньні, кожная зь іх можа падрыхтаваць які хаця законапраект. Напрыклад, камісыя па культуры можа падрыхтаваць альтэрнатыўную канцэпцыю эканамічнай рэформы. Яна мае такое права.

**"Навіны": Ці зьменіцца ў які-небудзь бок стаўленьне Вярхоўнага Савету да дэпутацкай групы БНФ пасьля канфэрэнцыі Народнага Фронту, прысьвечанай разгляду пытаньня пра поўную дзяржаўную незалежнасьць Беларусі ня ў складзе СССР?**

**А.Т.:** Гэта ня будзе нечаканасьцю для парляманту. Пра ўсё гэта мы ўжо неаднойчы сказалі. Мяркую, што адносіны нават палепшацца, бо калі ўжо зараз ідзе гаворка пра ператварэньне СССР, які ніколі ня быў нават фэдэрацыяй, у канфэдэрацыю, а на Прэзыдэнцкім савеце у Маскве прысутнічае Ландзбэргіс, Руйтэль і Гарбуноў – [illegible] гаворыць.

**"Навіны": Пасьля 28-га зьезду КПСС многія прагназуюць раскол у партыі. Як гэта можа адбіцца на дзейнасьці Вярхоўнага Савету і наогул сытуацыі ў Рэспубліцы?**

**А.Т.:** Гэта будзе ня проста раскол, як у свіфтаўскіх ліліпутаў – якім бокам разьбіваць яйкі – а разьмежаваньне па прынцыповых ідэялягічных пытаньнях. Я сам член гэтай партыі і ўпэўнены, што тыя людзі, якія ўступалі ў яе толькі дзеля таго, каб мець магчымасьць хоць нешта зрабіць для народу, выйдуць з КПСС ды ўзначаляць новыя партыі. Першы прыклад у Маскве ўжо ёсьць – гэта Дэмакратычная партыя, створаная Траўкіным.

Беларусь, паколькі адстае ў культуры ад суседзяў, і з партыямі будзе спазьняцца. Праўда, у нас ужо ёсьць некалькі філіяў маскоўскіх ці ленінградзкіх суполак, але шырокай падтрымкі яны, мяркую, не атрымаюць. Яшчэ ня сьпетая песьня БНФ. Больш таго, прыблізна 2–3 гады будзе назірацца яго бурны ўздым, бо толькі зараз да Народнага Фронту пачынае далучацца тая інтэлігэнцыя, якая да апошняга часу чакала праясьненьня сытуацыі. З часам БНФ "Адраджэньне" і стане той глебай, на якой зародзяцца і пачнуць дзейнічаць новыя партыі.

Адной з такіх партыяў можа стаць адноўленая Беларуская Сацыялістычная Грамада, калісьці самая магутная нашая партыя, дзякуючы якой хоць у такім выглядзе існуе зараз Беларуская Рэспубліка. Калі гэтая партыя ўзьнікне, прычым будзе менавіта адноўленая, а ня створаная, да яе далучыцца багата людзей.

**"Навіны": Як на дзейнасьць Вярхоўнага Савету ўплываюць народны рух і грамадзкае меркаваньне: страйкі ў Гомлі, мітынгі ў Магілёве, той самы пікет перад Домам ураду?**

**А.Т.:** Вельмі моцна. Каб не было людзей на плошчы, ўсё было б надзвычай проста: блякада нязначнай дэмакратычнай меншасьці і прыняцьце ўсіх патрэбных кансэрватарам рашэньняў. А людзі на плошчы прымушаюць парлямант ісьці ад кансэрватараў да дэмакратаў праз "цэнтар". Вуліца дае адчуць неадпаведнасьць расстаноўкі сілаў у Вярхоўным Савеце і ў грамадзтве. На бліжэйшыя месяцы, мяркую, захаваецца пэўны парытэт. Цэны зь ліпеня відавочна не падвысяцца, таму людзі яшчэ патрываюць, і болей, чым ёсьць, іх на плошчу пакуль ня выйдзе.

**Запісаў**
**Алесь СУША.**



Юры ХАДЫКА

# ЦЫВІЛІЗАВАНАЯ ФОРМА РАЗВАЛУ

Ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі становіцца ўсё больш папулярная. Калі год таму палажэньні Праграмы БНФ "Адраджэньне", якія патрабавалі дасягнуць палітычнага, гаспадарчага й культурнага сувэрэнітэту, выклікалі літаральна лямант сярод вэтэранаў партыі ды маладой атавы сталіністаў, дык працяглая кампанія барацьбы за галасы выбаршчыкаў значна зьмяніла погляды новай кіраўнічай намэнклятуры. Сёньня ў заяве Старшыні Савету Міністраў можна прачытаць, што Рэспубліка рыхтуецца ўвесьці сваю валюту, кіраўнічыя партыйныя асобы спасылаюцца на сувэрэнітэт, а Вярхоўны Савет гатовы прыняць адпаведную дэклярацыю.

Але зразумела, што не ініцыятыва таварышаў спрыяе росту папулярнасьці гэтай ідэі. Думаць пры дзяржаўную незалежнасьць вымушае стан нашай эканомікі ды праблема Чарнобыля. Кругавая парука, г.зв. "палітыка спэцыялізацыі рэспубліканскіх гаспадарак і саюзнага падзелу працы" прывялі да таго, што ніякая добрасумленная праца беларусаў ня можа абараніць іх ад крызысу, інфляцыі, развалу спажывецкага рынку.

Маруднае вырашэнне праблемаў, народжаных Чарнобыльскай катастрофай – неахвотнае, быццам з-пад палкі, прыняцьце Дзяржаўнай праграмы выратаваньня ахвяраў радыяцыі, якая прадугледжвае не такія ўжо й вялікія выдаткі, працяг вырабу харчовых прадуктаў на забруджаных землях, – паказалі нам, што нельга чакаць міласьціны ад Масквы. А спроба эканамічнага ўдушэньня Літвы рукамі беларусаў і наогул сьведчыць пра тое, што "цэнтар" ня спыніцца ні перад чым, каб захаваць сваю ўладу й свае прыбыткі.

Усе гэта и прымушае думаць пра дзяржаўную незалежнасьць Беларусі.

Шлях да незалежнасьці ня можа быць просты. І цяжкасьці тут ня толькі ў аднабокім разьвіцьці эканомікі, залежнасьці гаспадаркі ад вельмі аддаленых партнэраў, нізкай тэхналягічнай культуры, якая не дазваляе чакаць хуткага выхаду на сусьветны рынак у патрэбе перакваліфікацыі і г.д. Цяжкасьці – і ў тым, што за многія гады існаваньня ў межах няхай і бесталковай, але вялікай дзяржавы склаўся псыхалягічны стэрэатып утрыманца, стэрэатып боязі самастойнасьці, спадзяваньняў на чыюсь дапамогу. Дарма што яе няма! Але застацца сам-насам з жыцьцём, разьлічваць толькі на ўласныя сілы – гэтак нязвыкла і няўтульна. Ці ня ў гэтым прычына пэўнай насьцярогі да шляху маленькай, але мужнай Літвы?

Гэты стэрэатып трэба пераадолець. Трэба добра ўсьвядоміць, што ніхто й нішто не дапаможа нам, беларусам, калі мы самі ня будзем імкнуцца да незалежнасьці, да глыбокіх і поўных зьменаў у грамадзтве, да вяртаньня нармальных чалавечых каштоўнасьцяў, да выгнаньня клану рабаўнікоў і крывасмокаў. А яны будуць і надалей хапацца за ўладу і неўзабаве пачнуць гучней за ўсіх крычаць пра незалежнасьць, як крычаць зараз пра шматпартыйнасьць і плюралізм.

Заклікаючы да незалежнасьці, БНФ "Адраджэньне" бачыць Беларусь не ізаляванай, ня выспай пасярод бурлівага мора. У гісторыі мы знойдзем багата прыкладаў цёплых і плённых кантактаў Беларусі са сваімі суседзямі. Працягласьць гэтых кантактаў (спачатку ў межах Вялікага Княства Літоўскага, а потым Рэчы Паспалітай) вызначыла шмат агульных рысаў у культурах Беларусі, Балтыі ды Украіны. Сёньняшнія эканамічныя сувязі, калі мы ня хочам ірваць іх, таксама будуць аб'ектыўна спрыяць супрацоўніцтву пасьля таго, як апошняя ў сьвеце імпэрыя – Расейская імпэрыя – канчаткова разваліцца.

Вельмі хацелася б, зразумела, каб гэты развал адбываўся ў цывілізаваных формах – без эканамічных блякадаў ды ваенных пагрозаў. Гэтак, напрыклад, як ішоў развал Брытанскай імпэрыі. Менавіта стрыманасьць мэтраполіі дазволіла шматлікім народам, якія жывуць на розных кантынэнтах, у розных умовах і на розных ступенях разьвіцьця цывілізацыі, захаваць плённыя, узаемавыгодныя сувязі, утварыўшы Брытанскую садружнасьць. Яе складаюць незалежныя дзяржавы, аб'яднаныя агульнымі эканамічнымі ды культурнымі інтарэсамі.

Пры гэтым у межах садружнасьці вылучаюцца й шчыльнейшыя рэгіянальныя аб'яднаньні. Такім аб'яднаньнем і магла б стаць Канфэдэрацыя ці саюз былых заходніх рэспублік СССР. Гэтую плённую думку ўпершыню выказаў Зянон Пазьняк на 2-м Зьездзе Народнага фронту Латвіі. Шмат хто памятае, як ягоная невялікая прамова на гэтым форуме была перадрукаваная амаль усёй камуністычнай прэсай у суправаджэньні злосных камэнтароў. Аднак камэнтатары не заўважылі галоўнага – заклiку ўмацоўваць раўнапраўныя і ўзаемакарысныя сувязі на ўсіх узроўнях паміж заходнімі рэспублікамі СССР.

Трэба падкрэсьліць, што гэтая ідэя адразу была зразуметая дэмакратычнымі рухамі. Яна падрабязна абмяркоўвалася з кіраўніцтвам "Саюдзіса" пад час візыту кіраўніцтва БНФ ў Вільню 6-7 красавіка – у вельмі напружаны для Літвы час, а таксама праз тры тыдні, калі ў Менску сустрэліся адказныя прадстаўнікі ўкраінскага „Руху", „Саюдзісу" і БНФ. Падтрымліваецца яна й лідэрамі Міжрэгіянальнай групы.

Шырокая кааліцыя незалежных рэспублік ад Балтыкі да Чорнага мора прывабная ня толькі сваімі гістарычнымі каранямі ды эканамічнай мэтазгоднасьцю. Вельмі істотна, што ў выпадку рэалізацыі яна створыць для нас пэўныя палітычныя гарантыі правоў чалавека, паколькі, паўтаруся, магчымы выхад Беларусі са складу СССР на чале з партакратыяй, якая захапіла ўладу ў Рэспубліцы шляхам падаўленьня свабоды слова, свабоды ўтварэньня грамадзкіх арганізацыяў, накіданьня народу недэмакратычных законаў, бессаромнай хлусьні й махлярства.

Вельмі істотна таксама, што канфэдэрацыя заходніх рэспублік па сваіх эканамічных і людзкіх рэсурсах магла б паслужыць чыньнікам вайсковай стабільнасьці ва Ўсходняй Эўропе.

Такім чынам, шлях дя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі пралягае праз канфэдэрацыю і шлях да канфэдэрацыі ляжыць праз незалежнасьць. Толькі ва ўмовах дзяржавы, пабудаванай на прынцыпах роўнасьці і сапраўднай павагі паміж яе народамі, без хваробы на шавінізм, антысэмітызм ды іншыя "ізмы", магчымае эканамічнае, палітычнае і культурнае адраджэньне Бацькаўшчыны. Мы павінны сказаць "не" ізаляцыянізму, мы павінны сказаць "не" каляніялізму і ўсім тым, хто ў карысьлівых мэтах спрабуе пасварыць народы Беларусі й народ Беларусі зь ягонымі суседзямі.

# ВЫЙСЬЦЕ – ГЭТА ВЫЙСЬЦЕ

***30 чэрвеня – 1 ліпеня ў Менску, пад дэвізам "Незалежная Беларусь" адбылася рабочая канфэрэнцыя БНФ "Адраджэньне". Асноўнае пытаньне, якое абмяркоўвалася на ёй – праект Дэклярацыі пра дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, якую дэпутацкая група БНФ павінна вынесьці на абмеркаваньне ў Вярхоўным Савеце. Гэтыя два артыкулы хаця й былі напісаныя да канфэрэнцыі, добра ілюструюць розныя пункты погляду, выказаныя дэлегатамі. У выніку працяглага абмеркаваньня перамагла больш радыкальная канцэпцыя. На канфэрэнцыі прынятыя таксама рэзалюцыі "Аб палітычным становішчы", "Аб стварэньні новых партыяў", "Аб адносінах да КПБ" і ўхвала "Да арганізацыйнага ўдасканаленьня Фронту". Сёлета пастаноўлена правесьці пазачарговы зьезд БНФ. Больш падрабязна пра канфэрэнцыю чытайце ў наступным нумары "Навінаў".***

Андрэй САЎЧАНКА,
кандыдат эканамічных навук

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ – МЭТА І ЎМОВА

Ці вынікае з факту незалежнасьці дзяржавы наяўнасьць у ёй свабоды, дэмакратыі, а таксама эканамічнага росквіту? Адказваць на гэтае пытаньне лепш, гледзячы на мапу (карту) сьвету, на якую нанесеныя дзясяткі незалежных дзяржаваў. Аднак сярод іх – Албанія й Паўднёва–Афрыканская Рэспубліка, Чылі й КНДР, адметныя дыктатарскімі рэжымамі. На іхнім тле да Шатляндыі, якая ўжо працяглы час уваходзіць у склад Злучанага Каралеўства, цалкам падыходзіць характарыстыка дэмакратычнай і расквітнелай краіны. Можна дадаць, што нашыя суседзі – Літва, Латвія, Эстонія ды Польшча – у 1930-х гадох былі незалежнымі, але не дэмакратычнымі дзяржавамі. Аўтарытарныя рэжымы, якія існавалі там, здаваліся мяккімі і чалавечнымі толькі ў параўнаньні са сталінскім тэрорам у СССР.

Як бачым, незалежнасьць і дэмакратыя, незалежнасьць і эканамічны росквіт – не абавязкова сынонімы. Незалежнасьць важная не сама па сабе, а толькі злучаная з палітычнай воляй і ўменьнем народу выкарыстаць магчымасьці, дадзеныя ёю, дзеля дасягненьня агульнага дабрабыту. Наяўнасьць такой волі й такога ўменьня – першы аспэкт праблемы незалежнасьці.

Другі аспэкт можна сфармуляваць так: пры якіх умовах знаходжаньне пэўнага нацыянальна–дзяржаўнага ўтварэньня ў складзе фэдэрацыі стрымлівае ягоны рух па шляху дэмакратыі ды росквіту, а пры якіх – садзейнічае яму?

Відавочна, дзяржава можа лічыцца незалежнаю толькі тады, калі яна можа самастойна весьці зьнешнюю палітыку, мае ўласныя ўзброеныя сілы й уласную фінансавую сыстэму. Усё гэта дазваляе ёй мець сувэрэнны кантроль над сваёй тэрыторыяй і робіць яе ўрад незалежным у прыняцьці й рэалізацыі рашэньняў ад волі іншых дзяржаваў, падпарадкаваным толькі нормам міжнароднага права.

Было б памылкаю казаць пра поўную эканамічную незалежнасьць усялякай дзяржавы. У дэмакратычных краінах, дзе пануюць рыначныя адносіны[1], гаспадарчыя адзінкі ажыцьцяўляюць сувязі з партнэрамі (а значыць, залежаць ад іх), у тым ліку – з замежнымі. Калі ўся сукупнасьць гаспадарчых адзінак, якія складаюць аснову эканомікі пэўнай дзяржавы, залежыць ад яе замежных партнэраў, гаварыць пра эканамічную самастойнасьць дзяржавы нельга. Краіны з разьвітай рыначнай эканомікай шчыльна залежаць ад працэсаў, якія ідуць у сусьветнай гаспадарцы. Поўную эканамічную незалежнасьць (у форме лёзунгаў "апоры на ўласныя сілы" і да т.п.) абвяшчаюць, як правіла, краіны, дзе няма нармальных рыначных адносінаў і дзяржаўныя органы непасрэдна кіруюць дзейнасьцю ўсіх гаспадарчых адзінак. Якраз таталітарныя рэжымы, пабудаваныя на падпарадкаваньні ўсіх без выключэньня сацыяльных і эканамічных працэсаў адной ідэі (больш канкрэтна, ейнаму носьбіту), баючыся разнастайнасьці ды зьменаў, імкнуцца да аўтаркіі ва ўсім, нават у эканоміцы, дзе ізаляцыя відавочна невыгодная.

Некалькі словаў пра нацыянальны аспэкт незалежнасьці. У дэмакратычнай дзяржаве ўсе нацыянальнасьці маюць роўныя правы разьвіваць мову, культуру й нацыянальную самасьвядомасьць. Пры такой раўнапраўнасьці мова й культура нацыянальнай большасьці натуральна дамінуюць у абмене інфармацыяй ва ўсіх формах і на ўсіх узроўнях, пры фармаваньні стылю й ладу жыцьця. Гэты працэс не супярэчыць дэмакратычным прынцыпам і ня носіць дыскрымінацыйнага характару ў дачыненьні да прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў, бо стварэньне дзеля нейкай нацыі штучных перавагаў у прапорцыі, зваротнай долі яе прадстаўнікоў у агульнай колькасьці насельніцтва, аб'ектыўна вядзе да страты кожнай нацыяй свайго ўнікальнага характару. Неабходнай умовай дэмакратычнасьці нацыянальнага разьвіцьця зьяўляецца свабода руху й магчымасьць стварэньня тэрытарыяльна-культурнай аўтаноміі нацыянальным меншасьцям у месцах іх кампактнага пражываньня.

Можна зрабіць выснову: незалежнасьць пэўнай нацыянальна–тэрытарыяльнай адзінкі ня можа быць рэалізаваная ў кожны момант. Дзеля рэалізацыі незалежнасьці (а ня простага яе абвяшчэньня) неабходны шэраг перадумоваў. Мне бачацца наступныя зь іх:

а) досыць высокі ўзровень нацыянальнай самасьвядомасьці ў нацыі, якая складае большасьць насельніцтва;

б) спачуваньне памкненьням гэтай нацыі й разуменьне неабходнасьці дзяржаўнай незалежнасьці з боку большасьці прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць у дадзеным нацыянальна–тэрытарыяльным утварэньні;

в) наяўнасьць ураду, які разумее памкненьні народу, прызнае іх справядлівымі й гатовы адстойваць іх нават насуперак уласным групавым інтарэсам;

г) шырокія эканамічныя сувязі гэтай нацыянальна–тэрытарыяльнай адзінкі ў межах ня толькі фэдэрацыі, але й міжнароднага падзелу працы.

Даводзіцца канстатаваць, што аніводнай з названых перадумоваў у Беларускай Рэспубліцы няма. Аднак уявім усё ж, што цяперашняе кіраўніцтва Беларусі проста з моста абвяшчае незалежнасьць Рэспублікі. Да чаго гэта прывяло б? Мы ўжо адзначалі, што незалежнасьць ня тоесная дэмакратыі. Цяперашняе кіраўніцтва Рэспублікі цяжка западозрыць у прыхільнасьці да лібэральна–дэмакратычных стандартаў палітычных паводзінаў. Усе дэмакратычныя зьмены, у якіх яно прымала ўдзел, былі абумоўленыя адпаведнымі працэсамі ў "цэнтры" ды пры гэтым адставалі ад іх. Калі ў такіх варунках Рэспубліка стане незалежнай, неабходнасьць прытрымлівацца тэмпу дэмакратызацыі, які задаецца "цэнтрам", зьнікне, і няма ніякіх падставаў лічыць, што ў гэтым выпадку ў незалежнай Беларусі пачнуць пераважаць ліберальна–дэмакратычныя тэндэнцыі.

Разам з тым нестабільнасьць эканамічнай і палітычнай сытуацыі ў СССР не выключае лавінападобнага разьвіцьця дэструктыўных працэсаў у краіне. Пры гэтым пытаньне пра незалежнасьць Беларусі можа стаць пытаньнем яе далейшага існаваньня, пытаньнем выжываньня беларускага народа. Як вызначыць тую мяжу ў разьвіцьці зьнешніх умоваў, за якой – усеагульны жах і хаос, якія нельга дапусьціць у нас? Пакуль што адказу на гэтае пытаньне няма. Але гэты варыянт разьвіцьця падзеяў трэба мець на ўвазе й рыхтавацца да яго ўжо зараз. Падрыхтоўка, на мой погляд, мусіць быць скіраваная на стварэньне пералічаных вышэй перадумоваў незалежнасьці й, найперш, на разьвіцьцё дэмакратычных працэсаў у палітычным жыцьці Рэспублікі.

---

[1] рынак існуе й пры аўтарытарных рэжымах, аднак дзеля дэмакратыі ён – неабходная ўмова.

*Шаноўныя землякі, віншуем вас са сьвятам!*
*Віншуем з чароўным старадаўнім сьвятам Купальлем.*
*Прыглядзьцеся, калі ласка, да фотаздымкаў, надрукаваных побач, прыгадайце мэлёдыю лагоднай песьні пра Купалінку...*
*Так, гэты артыкул не пра палітыку. Ён пра іншае. Але бяз гэтага "іншага" губляе сэнс лёзунг і назва нашага руху – "Адраджэньне"*
*Губляе сэнс уся нашая дзейнасьць.*



# СЬВЯТА НАЦЫЯНА...

Сяржук ВІТУШКА

Дык пра што ж гэты артыкул?

Пра веру, верніцтва. Ці дакладней адсутнасьць веры – паняверку. Бо менавіта ў такім стане – у паняверцы – мы і жывём з вамі. А дзе паняверка – там няволя. Самая страшная няволя – духоўная.

За многія гады пасьлядоўнай і ўпартай дзейнасьці з нас добра-такі павытруцілі традыцыйную веру й мараль. Замест гэтага ў галовы спрабавалі ўтаўчы сацыяльныя міфы іхняй веры. І вось цяпер сядзім у багне і думаем, як выкараскацца...

Тут нехта з чытачоў можа і абурыцца, маўляў, пра што ён вярзе: у крамах пуста, яшчэ цэны абяцаюць падвысіць, Вярхоўны Савет такі, што ні слухаць ні глядзець ня хочацца. Няхай бы хаця балбаталі пісьменна... Ну і гэтак далей.

Але чакай, чакай, дарагі чалавеча. Чуеш – "ча-ла-ве-ча"? Не забывайся, хто ты ёсьць.

Бо, напэўна, і скаціну на ферме (на калгаснай ферме) хвалюе, што есьці няма чаго. І, напэўна, яна радуецца, калі статак нарэшце выганяюць на пашу і можна дасхочу наскубсьціся травы.

Але ж людзі не жывёла, ім даступныя іншыя радасьці. Згадайма мудрыя словы Максіма Багдановіча: "Штодзённым клопатам поўна людзкое жыцьцё. Але калі зварухнецца душа чалавека – толькі песьня здолее спатоліць яе. Шануйце ж песьні свае".

І вось цяпер паспрабуйце ўявіць сабе Купальле – ня з чорным куродымам трактарных скатаў, а сьвяточны магічны абрад ачышчэньня агнём, вадою, зёлкамі і, галоўнае – шчырай песьняй.

Згадваю сваё першае Купальле. Сам ведаў зь песьняў бадай толькі "Касіў Ясь канюшыну", а тут людзі цэлую ноч сьпяваюць! І не са сцэны ці па радыё, ня хор у "кокошниках с набалдашником", а сябры – вочы ў вочы, душа і душу. Словы, мэлёдыя працінаюць цябе наскрозь.

Пасьля гэтае ночы стаў іншым. Пачаў жыць з гэтае ночы песьнямі, гэтымі сьвятамі.

Купальле... Яшчэ задоўга да таго, як падыйдзе летні сонцаварот, пачынаеш рыхтавацца. Шукаеш прыдатнае месца, зьбіраеш лепшых сяброў, развучваеш мэлёдыі... Нарэшце надыходзіць гэты дзень. Ты стаіш на пагорку і сузіраеш велічныя краявіды, жытнёвае поле й сіні пас лёсу. У жыце ужо павыплывалі каласы... Ветрык пагойдвае ніву, і па збажыне бягуць срэбраныя хвалі – "Бог авечкі пасьвіць", як бы сказала мая бабуля... Ты сочыш на захадзе сонца, як запаляюцца зоркі, углядаесься ў трапяткі агеньчык купальскага вогнішча. І раптам цябе працінае думка, адвечнае пытаньне: "Скуль яно ўсё і што яно?"

І ў нейкі момант робіцца цуд – нараджаецца вера.

Ты чуў легенду, людзі казалі пра Папараць-Кветку. Той, хто знойдзе яе – стане відушчым. А табе ж страшэнна хочацца стаць відушчым, знайсьці прыхавання скарбы (не, толькі ня грошы, – скарбы духоўныя), знайсьці суладзьдзе зь людзьмі, з Сусьветам, з Панам Богам. І ты ахвотна верыш у гэтую мілую чароўную казку з Кветкай-Папараць-цю. І ня проста верыш – адкідаеш страх, бярэш паходню і гатовы ісьці шукаць сваю Кветку хоць бы ў самыя нетры пушчы.

А тым часам хуткасьць купальскіх карагодаў нарастае, шалее... Падхапіўшы за руку дзяўчыну, ты скачаш праз вогнішча. З вамі шугае ўгору цэлы слуп зыркіх жарынак-ясачак. Па гэтых ясачках варожаць на каханьне. Ну як ты тут не паверыш, калі сам Боскі агонь паказвае, што спраўдзіцца...

Тут зноў, я прадбачу, хтось скасавурыцца, маўляў, глупства гэта ўсё, забабоны, аджыло.

От, хіба што не. Вы ж паглядзіце: ня толькі старыя песьні гучаць сёньня на Купальлі. Творы сучасных паэтаў таксама трапна кладуцца на купальскі настрой, сьвяточны дух:

"Божа, забяры маё жыцьцё –
большага ня маю чым
аддзячыць..." (А.Глёбус)

"Лес – гэта Храм..." (А. Сыс)

"–Што сабе пад голаў клала?
–Клала Папараці Кветку.
–Што прысьніла ты, Купала?
–Я прысьніла бедных дзетак,
Што згубілі сваю хатку,
Сваю хатку – зямлю-матку,
Што забылі сваю песьню,
Мая песьня ў цёмным лесе.
–Хто ж цяпер яе сьпявае?
–Той, хто любіць родны краю..."
(С.Сокалаў-Воюш)

Апошні прыклад, песьню Воюша, хто пачуе, дык нават спачатку й не адрозьніць ад традыцыйнага фальклёру. А хоць бы сабе і адрозьнівалася – марна думаць, каб адрадзіць рыхтык такое самае сьвята, якое было тысячу ці сто год таму. Мяняецца побыт і мэнтальнасьць. Адраджаючы традыцыю, трэба ня столькі імкнуцца да вонкавага падабенства, як да спасьціжэньня сутнасьці; адраджаюць не канкрэтны абрад, а здольнасьць да творчасьці, спосаб мысьленьня. Так што Купальле не аджыло. Яно жыве і, спадзяюся, жыцьме.

Сапраўды, сучаснаму чалавеку ўласьцівыя пераважна рацыяналізм і лягічнасьць мысьленьня, але й міфы яму не чужыя. Калі чалавека адлучаюць ад роднае яму духовае культуры, ягонае міфалягічнае мысьленьне спараджае пачвары – сацыяльныя ілюзіі ды таталітарную сьвядомасьць. Хіба ня гэтыя пачвары спароджаныя цяперашнім ладам? Хіба не ад іх мы пакутна пазбаўляемся?
















А цяпер, бадай, скажу самае галоўнае, што хацеў сказаць: дружа, а паспрабуй сам наладзіць Купальскае сьвята. Падрыхтуйся да яго ня як глядач да канцэрту, а як сьвятар да службы ў храме. І адсьвяткуй гэтую чароўную ноч. Знайдзі сваю веру. Здабудзь сваю волю.

Сёньня гэта ўжо зрабіць лягчэй. Гэта раней купальшчыкаў страшылі міліцыянтамі з сабакамі, і трэба было баяцца, каб часам не завезьлі ў пастарунак. Так і было у 1985-м першым гарбачоўскім годзе, калі некалькі будак з міліцыянтамі ажно на Нёман прыкацілі разганяць, як ім сказалі, "фашыстоўскае сьвята", а палову купальшчыкаў-майстроўцаў да абеду наступнага дня дапытвалі ў Стоўбцах афіцэры менскага КДБ.

Цяпер яны (не афіцэры, а яны ўсе наогул) нібыта прызналі значэньне фальклёру. Прычым, калі хрысьціянскай культуры яшчэ пабойваюцца, дык народную гатовыя прыняць, як быццам „стыхійна матэрыялістычную". Няшчасныя... Фальклёр мае непасрэдную гэнэтычную сувязь і з паганскай верай, і з хрысьціянствам, а таму знаходзіцца па другі бок мяжы ад паняверкі, ад іхніх словаў ды ідэяў.

Праўда, дзеля справядлівасьці трэба заўважыць, што і тыя Купальлі, якія ладзіла моладзь адраджэнскага руху, ледзьве не ператварыліся ў палітычныя акцыі. Прыгадаю такі эпізод. Талакоўцаў летась запрасілі дапамагчы правесьці сьвята ў Заслаўі. Ведаючы, каго клічуць, вельмі прасілі не рабіць ніякай крамолы. Мы зьдзівіліся просьбе: якая там крамола, ня мітынг жа зьбіраемся ладзіць – Купальле.

Але вось уначы, у самы разгар сьвята, узьвіліся над грамадою бел-чырвона-белыя сьцягі...

Заслаўскае начальства ледзьве не самлела. „Сейчас же уберите это, или мы выключим свет (там гарэла пара ліхтароў кінастудыі „Беларусьфільм") и все закроем!" Гэтая пагроза нас аддушы разьвесяліла. Але паколькі сварыцца не хацелася, мы паспрабавалі іх ўлагодзіць, тлумачылі, што ў людзей сьвяточны настрой, што Купальле – традыцыйнае беларускае сьвята, што нацыянальныя сьцягі – гэта творчае разьвіцьцё абраду і г.д.

Сьмеючыся з начальскіх страхаў, трэба ўсё ж прызнаць, што няварта палітызаваць фальклёрныя сьвяты, рабіць зь іх акцыю пратэсту або агітканцэрт. Дзеля гэтага ёсьць іншы час, напрыклад – выбарчая кампанія.

А скончыць гэтыя нататкі можна словамі Янкі Купалы : "...і так, здаецца, хацелася б, каб гэтае Купальле было не адзін раз у год і не ў адной Вільні, а колькі раз і па ўсіх гарадох, мястэчках і вёсках вялікай і багатай вяковым цярпеньнем роднай старонкі – Маці-Беларусі. Пара скінуць многамільённаму беларускаму народу свой векавечны сон, пара распусьціць свае сакаліныя крыльлі і дружна, па-арлінаму сягнуць па свае законныя правы на вольнае і грамадзянскае самапачуцьцё. Хай сьвята Купалы станецца паўсямесным сьвятам беларускага нацыянальнага адраджэньня – гэта наша шчырае жычаньне ўсім жывым".

Фота Уладзімера Сапагова.

# БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ БЕЛАРУСЫ

***19 чэрвеня ўпершыню на плошчы перад Домам ураду сярод маніфэстантаў зьявіўся эстонскі сіня-чорна-белы сцяг. "Tere, Rahvarinne," – зьвярнуўся да госьця карэспандэнт "Навінаў". Але той адказаў на чыстай беларушчыне. "Чалавекам з плошчы" аказаўся Лявон ВАЛУЙ, сябра беларускага гісторыка-асьветніцкага таварыства "Грунвальд" у Эстоніі.***

**"Навіны": Што новага ў Эстоніі вачамі талінскага беларуса?**

**Лявон Ьалуй:** Эстонія стала на шлях незалежнасьці. Парлямант Рэспублікі прыняў Дэклярацыю незалежнасьці. Эстонцы – народ практычны. Адразу ўзяліся за стварэньне неабходных структураў. У Швэцыі ўжо друкуюцца новыя грошы – эстонскія кроны. Мяркуецца да сьнежня ўвесьці нацыянальную валюту. У горадзе Пайдэ арганізаваная паліцэйская школа, дзе з дапамогай зноў жа швэдзкіх спэцыялістаў будуць рыхтаваць працаўнікоў сыстэмы правааховы. Паўсюдна разьвіваецца сетка сумесных прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі. У першую чаргу зь фінскімі, швэдзкімі й дацкімі. Штодзень з Таліна да Хэльсінкі йдуць два цеплаходы. Бяруць каля 3 тыс. пасажыраў разам. Ніводнага вольнага месца. Хаця мытная сыстэма кантралюецца імпэрыяй, але ўсё роўна выехаць з Эстоніі лягчэй, чым адсюль. Людзі едуць працаваць, вучыцца, падвышаць кваліфікацыю. І ў Эстоніі адкрылася шмат розных курсаў, магчымасьцяў ужыць свае здольнасьці.

**"Навіны": Як ставяцца да гэтых працэсаў беларусы, што жывуць у Эстоніі?**

**Л.В.:** У Таліне беларуская дыяспара немалая – 15 тыс. чалавек. Далёка ня ўсе актыўна ўдзельнічаюць у дэмакратычным руху. Большасьць пакуль пасыўная. Але патроху абуджаюцца. Аднак ёсьць беларусы і сярод „інтэроў". Тут, праўда, нас апярэдзілі мясцовыя ўкраінцы. Лідэры інтэрруху – дэнацыялізаваныя ўкраінцы Яравой, Лысенка. Такі самы як яны – нейкі Рудэня, беларус, намесьнік Яравога. Яны справакавалі той шумны „рускаязычный" штурм Парляманту Эстоніі ў траўні. Перад натоўпам зь імпэрскай прамовай выступаў нехта Бусел. Ёсьць і такія беларусы. Прэзыдэнт Савісар зьвярнуўся да народу па дапамогу. Я быў там разам з эстонскай моладзьдзю. Вярталіся штурмавальшчыкі скрозь нашыя шэрагі прысаромленыя, з падцісьнутымі хвастамі. Са штурму атрымалася адна ганьба.

**"Навіны": Як Вы ўспрымаеце нашыя падзеі, стоячы тут на плошчы?**

**Л.В.** Адтуль сапраўды цяжка ўсё зразумець. Эстонцы нас пытаюцца: „Як ваш народ можа цярпець такі зьдзек? Чарнобыль, атручаную ежу, нахабства ўлады?.." А тут на плошчы пачуваесься чалавекам побач зь людзьмі. Эстонія для нас павінна быць прыкладам. Барацьбу нашых дэпутатаў у Парляманце Беларусі неабходна падтрымаць усенароднай барацьбой за свае правы.

**"Навіны": А эстонскую мову ведаеце?**

**Л.В.** На жаль, не размаўляю. Яшчэ 2 гады таму гэта было зусім непатрэбна. Працаваў ў расейскамоўным калектыве. Паўсюль зачынялі эстонскія школкі, улада душыла эстонскую інтэлігэнцыю. Зараз эстонцы проста выратоўваюць сябе, сваю культуру.

**"Навіны": Якія пэрспэктывы беларускага руху ў Эстоніі?**

**Л.В.:** "Грунвальд" адзначыў Дзень Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка, потым Чарнобыльскую гадзіну смутку. Зьбіралі да 100 чалавек. Да нас далучаліся ўкраінцы. Эстонцы з сымпатыяй ставяцца да гэтых праяваў нацыянальнай сьведамасьці. Усе ўжо пазнаюць беларускі сьцяг, не пытаюцца адкуль, вітаюць воплескамі: Нядаўна разам са сьведамымі ўкраінцамі й расейцамі мы стаялі ў пікетах ды зьбіралі подпісы ў падтрымку незалежнасьці Эстоніі. Тысячы подпісаў назьбіралі. І зноў "інтэра" кідаліся біцца з парасонамі на тых, што стаялі пад расейскім трохкаляровым сьцягам. Але эканоміка перацягне людзей. Той, хто хоча тут працаваць, атрымлівае ў тры разы больш, чым на Беларусі. У Эстоніі на прадпрыемствах да 60% ад напрацаванага йдзе на заробак. Я – будаўнік, атрымліваю штомесяц да 1 000 руб. І ніякія бугалтэрыі не перашкаджаюць. Няўжо наш працавіты беларускі народ не заслужыў, каб яму не перашкаджалі? Вось такія "экстрэмісцкія народныя фронты, што дарваліся да ўлады ў Прыбалтыцы".

**Запісаў Валеры БУЙВАЛ**




**Гэты здымак, на думку Лявона Валуя, адлюстроўвае сытуацыю ў Эстоніі. Талін. Тыдзень Салідарнасьці (26 траўня – 2 чэрвеня). Са сваімі нацыянальнымі сьцягамі ў пікеце беларусы, украінцы й рускія. У гэты дзень за дзьве гадзіны было сабрана каля 5 тыс. подпісаў. У цэнтры з фотакамэрай у руках – Л.Валуй.**

---

# СУПЭРПРАЗАІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

***Гэта здарылася ў верасьні 1982 года. Некалькі дзён запар магутныя ГАЗ-66 таранілі непралазную лясную цноту некалі партызанскай Асьвейшчыны. Яны ўпэўнена праціскаліся да патаемнай, надзейна схаванай ад выпадковых вачэй мясьціны ў Сар'янскай пушчы, што ў Верхнядзьвінскім раёне Віцебскай вобласьці.***

Сяргей ЛЫСКАВЕЦ
(Віцебск)

ГАЗ-ы везьлі на сабе небясьпечны груз – рэшткі атрутных хімікатаў, сабраных з усёй вобласьці. Гэты крыжовы паход супраць роднае зямлі й прыроды быў бласлаўлёны распараджэньнем Віцебскага аблвыканкаму ад 25.08.82 за нумарам 438 р і подпісам старшыні выканкаму Шыбекі ды асьвячоны абласным партыйным бацькам Шабашовым (абодва цяпер пэнсіянэры).

Гэтак, пад халасты ідэялягічны трэск аб няспынным клопаце пра чалавека і ягонае шчасьце, у Сар'янская пушчы – сапраўдным дыямэнце прыроды – на землях саўгасу "Дрысенскі", употай ад мясцовых жыхароў і з усімі магчымымі парушэньнямі тэхналёгіі ды элемэнтарнае бясьпекі, была захаваная сапраўдная экалягічная бомба.

Бомба ўмяшчала ў сабе 452,9 тоны розных атрутных хімікатаў. Выбух мог адбыцца ў кожную хвіліну, бо атрута была захаваная не на ўтрамбаваным двухмэтровым пласьце гліны і не ў саркафазе са спэцыяльнага бэтону са сподам і сьценамі таўшчынёй як у баявога дота (так прадугледжвалася праектам), а звычайным самаскідам у яму.

Выбух мог адбыцца ня толькі ў пераносным, але і ў літаральным сэнсе, бо адмысловых начыньняў, якія перашкаджалі б зьмешваньню асабліва небясьпечных атрутаў, таксама не было – у адну кучу былі зваленыя атруты больш як 50 назваў і проста прысыпаныя зьверху зямлёй.



**Малюнак Кастуся Вашчанкі.**

Злавесны курган быў агароджаны калючым дротам з адпаведнай шыльдай: "Асьцярожна ! Месца захаваньня атрутных хімікатаў ! Шкодна для здароўя !". Тады мясцовым партыйным мамаям здавалася, што курган гэты вечны.

Але ішоў час. Іржа й зьвяры парвалі дрот, а сярод мясцовых паляўнічых папаўзьлі чуткі, што нешта вельмі нядобрае творыцца ў тым раёне, дзе сховішча: за кілямэтар ад яго няма чым дыхаць, вакол вада зялёная, блакітная, рудая, жабы здохлыя валяюцца, няма птушак.

Месца для захаваньня была абранае падывэрсійнаму дакладна – якраз паміж двух лясных ручаёў. Ледзь пойдзе дождж або веснавая паводка ўздыме ваду, уся атрута сплывае ў гэтыя ручаі, адтуль у невялікую рачулку Тур'ю, а потым у раку Сар'янку – правы прыток Заходняй Дзьвіны.

Усьвядоміўшы ўсю трагічнасьць становішча, мясцовыя жыхары пачалі пратэставаць – яны не хацелі заставацца заложнікамі свайго Верхнядзьвінскага Чарнобыля, як ахрысьцілі гэты курган.

Летась увесну жыхар вёскі Сар'я, інвалід 2-й групы, паляўнічы Мікалай Купрын даў тэлеграму Гарбачову, а таксама пісьмова зьвярнуўся да карэспандэнта Цэнтральнай тэлевізіі Сініцына. Тэлеграма была накіраваная ў Дзяржкампрыроду СССР, адтуль у Дзяржкампрыроду БССР, адтуль, за подпісам намесьніка старшыні Алешкі, у Віцебскі абласны камітэт аховы прыроды. Кола замкнулася.

Вынік: на месца прыяжджалі некалькі камісіяў, мэта якіх была не ліквідацыя атрутнага сховішча, а бясконцы пошук вінаватых. Ды яшчэ даведка нейкага Бабоўкі, начальніка спэцыялізаванай інспэкцыі экалягічнага кантролю абласнога камітэту па ахове прыроды.

У апошняй адказнымі за бяду сталі . . . баб-ры, якія "у 40 мэтрах ад складу захаваньня збудавалі запруду на невялікім ручаі, які выцякае з балота, што знаходзіцца побач. У выніку ўзровень вады ў балоце падвысіўся, што стварае пагрозу падтапленьня сховішча. Для папярэджаньня магчымага падтапленьня сховішча Верхнядзьвінскай райсельгасхіміі дадзена прадпісаньне аб хадайніцтве па перасяленьні баброў і паніжэньні ўзроўню паверхневых водаў".

Цікава, што калі закопвалі атруту, дык ня тое што для баброў, для людзей, якія жывуць навокал, ніхто ніякага хадайніцтва не рабіў. Тагачасная камісія па захаваньні атрутных хімікатаў на чале з намеснікам старшыні абласнога аб'яднаньня "Сельгасхімія" Гоманавым ды намесьнікам начальніка ўпраўленьня сельскай гаспадаркі аблвыканкаму Плавінскім (у склад камісіі ўваходзіла яшчэ багата абласных старшыняў і начальнікаў) рабіла ўсё ўпотай, амаль падпольна.

Што ж цяпер рабіць жыхарам навакольных вёсак ? Скардзіцца далей ? Дык ад папяровых рэкамэндацыяў паветра ды вада чысьцейшыя ня стануць. Трэба будаваць новы бункер і пераносіць атруту туды. Толькі вось хто будзе фінансаваць гэтае мерапрыемства і выконваць усе працы – невядома.

Таму застаецца мясцовым жыхарам апошні сродак – скінуцца ўсёй грамадой, сабраць грошы ды закупіць на будучыню скрыню ці дзьве процігазаў – для сябе і для баброў.

# БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ У ЛЯЙМЭНЕ

Мікола ІВАНОЎ
(Вроцлаў)

Заходняя Нямеччына, мястэчка Ляймэн, што недалёка ад славутага ўнівэрсытэцкага Гайдэльбэргу. Тут у 1982 г. паўстаў Інстытут беларусаведы ў Заходняй Нямеччыне, а пры ім – беларускі музэй. Інстытут і музэй – прыватныя ўстановы, для ўтрыманьня якіх створаны адмысловы Грамадзкі фонд. Сродкі (хаця і невялікія) шлюць практычна з усяго сьвету беларускія эмігранты, часам бываюць субсыдыі й ад сымпатыкаў беларускай справы – небеларусаў.

Аснову ж Фонду складаюць прыватныя сродкі надзвычай ахвярнага чалавека Юрыя Попкі. Хто ж ён такі, гэты беларус зь Нямеччыны? Якім чынам удалося яму заснаваць і кіраваць дзейнасьцю навуковай установы, добра вядомай ня толькі ў эміграцыйным асяродзьдзі, але і нашмат шырэй?

У Заходнюю Нямеччыну закінула Юрыя Попку ваеннае ліхалецьце. Калі ў 1941 Пружаншчыну занялі немцы, яму спачатку здалося, што прыйшло вызваленьне ад „ночы сталіншчыны". Неўзабаве разам з групай іншых дабрахвотнікаў ён падаўся на працу ў Нямеччыну. Але даволі хутка малады хлапец пераканаўся, што новыя акупанты гэткія ж, як і папярэднія. Працаваў на заводах Мэсэршміта, адначасна намагаўся праводзіць працу сярод прымусовых работнікаў-беларусаў. Як прадстаўнік гэтых работнікаў удзельнічаў у 2-м Усебеларускім Кангрэсе ў Менску. Пасьля вайны шмат хварэў, цяжкая прымусовая праца моцна падарвала ягонае здароўе. У сувязі з гэтым нямецкія сацыяльныя ўлады прызналі яму статус „ахвяры нацызму" й прызначылі адпаведную пэнсію.

Ідэя залажэньня ў Нямеччыне беларускай навуковай установы нарадзілася ў асяродзьдзі беларускіх эмігрантаў дзякуючы ініцыятыве двух сяброў – Ю.Попкі і прафэсара Барыса Кіта (выхаванца й выкладчыка Віленскай беларускай гімназіі). Яны й сталі галоўнымі ахвярадаўцамі й закладальнікамі Інстытуту ды Музэю. Аснову экспазыцыі склала асабістая калекцыя беларускіх экспанатаў і матэрыялаў, якую ўсё жыцьцё зьбіраў Ю.Попка. Тое ж тычыцца й бібліятэкі, што існуе пры Інстытуце. Аснову яе фондаў складаюць эмігранцкія выданьні. Сярод іх ёсьць унікальныя, выдадзеныя ўсяго ў некалькіх ці некалькіх дзясятках асобнікаў.

Штогод выдаюцца "Весткі Інстытуту Беларусаведы". Апрача даволі цікавых публіцыстычных артыкулаў, якія адлюстроўваюць погляд эміграцыі на паасобныя бакі актуальнага жыцьця нашага народу, на старонках "Вестак" зьяўляюцца каштоўныя навуковыя працы, мэмуары ды ўспаміны дзеячоў беларускага руху.

У Музэі шмат наведнікаў. Прыходзяць нямецкія школьнікі са сваімі настаўнікамі, каб нешта даведацца пра тую „невядомую краіну" – Беларусь. Прыяжджаюць эмігранты з усяго сьвету, нехта з амэрыканскіх беларусаў нават арганізаваў экскурсію ў Музэй групы амэрыканскіх школьнікаў. Часам заходзяць суайчыньнікі з Бацькаўшчыны, службовы або асабісты лёс якіх закідвае ў гэты куток ФРГ.

Той, каму пашанцавала пабываць ў Ляймэне й пагутарыць са спадаром Ю.Попкам, ня можа застацца абыякавым да ахвярнай дзейнасьці гэтага чалавека на беларускай ніве. Дзякуючы перадусім ягоным асабістым намаганьням паўстала ў Нямеччыне беларуская навуковая пляцоўка, якая можа стаць грунтам дзеля далейшага разгортваньня беларусазнаўчай працы ў Эўропе.

Наш час вызваліў Ляймэнскі Інстытут ад ізаляцыі. Пачалі ўсталёўвацца кантакты з Бацькаўшчынай Таму сёньня Рада Інстытуту Беларусаведы ў Нямеччыне зьвяртаецца да ўсіх, хто хоча наладзіць кантакты з Інстытутам, напісаць у Ляймэн. Ніводная ініцыятыва супрацоўніцтва не застанецца без адказу, Музэй вельмі зацікаўлены ў атрыманьні новых экспанатаў. Па магчымасьці ўсё атрыманае зь Беларусі будзе выстаўлена ў экспазыцыі. Адрас Інстытуту: Institut der Bjelorussischen Kulturwissenschaften. Goethestr, 1 D-6906 Leimen – St. Ilgen b. Heidelberg. BRD ФРГ.




Мапа, якая пачынае экспазыцыю Беларускага музэю ў Ляймэне.

**Пакуль гэты матэрыял рыхтаваўся да друку, жалобную вестку даслаў нам чытач Анатоль Мяльгуй. У ФРГ, у Ляймэне, спачыў Юры Попка.**

**СЬВ. ✝ ПАМ.**
**ЮРЫ ПОПКА**

**Гэты чалавек вядомы ўсім беларусам як фундатар і працаўнік ляймэнскага Інстытуту Беларусаведы. Яго сіламі ў далёкай Нямеччыне створаны Беларускі музэй, выдаваліся "Весткі Інстытуту Беларусаведы", ладзіліся беларускія імпрэзы, пабудаваны помнік жаўнерам-беларусам. Вечная памяць. Ён натхнёна жыў, працаваў і спачыў пад неўміручым бел-чырвона-белым сьцягам.**

**А.М.**

**Пасьля сьмерці Ю.Попкі справа захаваньня музэю ў Ляймэне перайшла да аўтара гэтага артыкула, доктара гістарычных навук Міколы Іванова.**

---

# КАМУ ДАЦЬ ШАНЦ ВЫЖЫЦЬ?

***Стан дзіцячай мэдыцыны прыводзіць у роспач. Апрача дзіцячай гэматалёгіі, пра якую "Навіны" пісалі ў папярэднім нумары, у той самай 1-й менскай клініцы знаходзіцца і дзіцячы хірургічны цэнтар. Гэта адзіная ўстанова такога роду на Беларусі. Сюды прывозяць дзяцей з самымі складанымі паталёгіямі. Лягічна было б меркаваць, што дзіцячая хірургія забясьпечаная найлепшай мэдычнай апаратурай. Аднак гэта ня так. Ня толькі ў аддзяленьнях, але нават у рэанімацыі не хапае самага неабходнага.***

Сяргей АНТОНЧЫК,
народны дэпутат БССР

Тое, што можна ўбачыць ў дзіцячым хірургічным цэнтры, не стасуецца ні зь якім уяўленьнямі пра чалавечнасьць. У рэанімацыі да хворай дзяўчынкі, якая за тыдзень перанесла чатыры апэрацыі, быў падключаны апарат для дыханьня заходнегерманскай фірмы "Дрыгэр" (савецкія сыстэмы проста не спраўляюцца за падобнай нагрузкай). Але вось у рэанімацыйную палату трапляе хлопчык, якому таксама не абыйсьціся бяз гэтай тэхнікі. А ў рэанімацыі толькі адзін такі апарат. І лекары вымушаныя вырашаць, каму з малых даць глыток паветра, у каго больш шанцаў выжыць. Надзвычайны маральны цяжар!

Мэдычны пэрсанал хірургіі працуе на мяжы магчымага. Як звычайныя грузчыкі, лекары цягаюць на сабе балёны з кіслародам, бо не працуюць установкі, якія павінны падаваць яго непасрэдна да ложкаў. А калі адзіны ў рэанімацыі апарат для дыханьня перадаюць другому хвораму, дык першаму на працягу 8-мі гадзінаў мэдычная сястра, ні на хвіліну не адыходзячы ад ложка, напампоўвае кісларод звычайнай грушай. Пра якое дазаванае паступленьне паветра можа йсьці гаворка! Гэта хутчэй нагадвае чаргу за чаравікамі ці кілбасой. Толькі тут усё каштуе жыцця.

Дэфіцыт мэдычнай тэхнікі і лекаў узмоцнены неверагоднай цеснатой. Няма магчымасьці падтрымліваць элемэнтарныя санітарна-гігіенічныя нормы, што стварае выбуховую эпідэміялягічную сытуацыю. Дзіцячая сьмяротнасьць ад гнойна-сэптычных ускладненьняў толькі за два з паловай месяцы гэтага году склала 25%, а сярод навароджаных, якім рабілі апэрацыю ў клініцы ў 1989 годзе – 65%.

Зараз плянуецца будаўніцтва новага корпусу, але пакуль гэты праект зьдзейсьніцца, пройдзе багата часу, а хворыя дзеці паступаюць у Цэнтар штодня.

Кіраўніцтва хірургіі неаднойчы зьвярталася па дапамогу да былога міністра аховы здароўя БССР Ул. Улашчыка. Прасілі валюту на закуп рэанімацыйнага абсталяваньня. Міністар адмовіў, маўляў, няма. Але ж гэта не перашкодзіла яму выдаткаваць мільён інвалютных рублёў на мадэрнізацыю паліклінікі 4-га галоўнага ўпраўлення. Дарэчы, на абсталяваньне рэанімацыі Цэнтру самым неабходным патрэбная не такая ўжо вялікая сума – 160 тысячаў даляраў. Тыя 100 тысячаў інвалютных рублёў, якія рэспубліканская намэнклятура выкарыставала на чарнобыльскі круіз, маглі б пакрыць амаль трэць выдаткаў на абсталяваньне.

Наогул, стан дзіцячай мэдыцыны выдатна ілюструе сьветапогляд і мараль дзяржаўна-партыйнага кіраўніцтва. Занядбанасьць сыстэмы аховы здароўя нельга тлумачыць выключна беднасьцю Рэспублікі. Мне ўдалося зьняць фільм пра прывілеі беларускіх партыйных правадыроў. Спадзяюся, яго ўбачаць ня толькі калегі-дэпутаты, але і ўсе гледачы беларускай тэлевізіі. Там ёсьць кадры амаль пра ўсе аб'екты адпачынку, якія яны ўзьвялі за нашай сьпінай і за наш кошт. І гэта ў той час, калі нашыя дзеці паміраюць зь іхняй віны! Гэта нельга і зразумець, ні апраўдаць.

Супрацоўнікі дзіцячай хірургіі выдатна разумеюць, што хадзіць і прасіць – ня лепшае выйсьце. Яны гатовыя самі зарабляць валюту, працаваць ва ўмовах экспэрымэнту, прыцягваць сродкі прадпрыемстваў за кошт прафілактычнага лекаваньня дзяцей рабочых. Але ня толькі зарабляць.

Цэнтар ня мае магчымасьці нават адчыніць свой рахунак, маўляў, клініка рахунак мае, і карыстайцеся ім. Але з агульнага пірага для дзіцячай хірургіі перападаюць крохі. Таму прадстаўнікі некаторых кааператываў, якія гатовыя ахвяраваць сродкі на Цэнтар, вагаюцца. Дзе гарантыя, што ўсё ахвяраванае трапіць менавіта ў дзіцячую хірургію? Надакучылі людзям паборы бяз адрасу, дабрачыннасьць бяз адрасу. Для таго, хто хоча дапамагчы менавіта гэтым дзецям, менавіта гэтаму шпіталю, павінна існаваць гарантаваная магчымасьць.

Пытаньне пра дзіцячы хірургічны цэнтар і наогул пра стан дзіцячай мэдыцыны на Беларусі дэпутаты павінныя паставіць перад новым складам Савету Міністраў Рэспублікі.

**НАВІНЫ**

841 Заказ № 7. Наклад 30000. Цана 50 кап.

Выданьне Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Нумар падрыхтавалі Валеры Буйвал, Вінцук Вячорка, Ірына Лазоўская, Алесь Ліпай, Зьміцер Пушкін, Юры Рагуля, Алесь Суша (рэдактар), Валеры Сядоў. Афармленьне Кастуся Ашчанкі і Алены Зуевай. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і не вяртае. Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск–113, абанементная скрынка 327. Ахвотныя распаўсюджваць газэту могуць зьвяртацца па тэл. 44-35-61 (Зьміцер), 37–04–60 (Юры) або па аўторках і чацьвярах з 19.00 да 21.00 на адрас: Менск, вул. Гая, 15–5. Рэдакцыя гатовая заключыць з распаўсюднікамі адпаведныя пагадненьні.

Здадзена ў друк 2 ліпеня 1990 г. Друкарня "LIESMA"